Шукаем трох Каралёў! 2
Божае Нараджэнне на паштовых марках 4
Рубрыка для моладзі 6
Святочныя віншаванні 7–8

Гродна
№ 1 (412),
11 студзеня 2015

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

www.slowo.grodnensis.by



# Святы Божага Нараджэння
## як таямніца любові, радасці і спакою


Пастэрка распачалася ўрачыстым унясеннем фігуркі Дзіцятка Езус у шопку

*"Ціхенька так, ціхенька так*
*Бог людзям даў свой дар,*
*Цудоўных бласлаўленняў моц,*
*Дзівосны ў сэрцах жар.*
*І хоць прыйшоў нячутна*
*На свет, дзе правіць грэх,*
*Пакорныя душы прымуць Яго,*
*Бо Збаўцам нашым ёсць".*

Як кожны год, у вігілійны вечар 24 снежня ў гродзенскай катэдры была адпраўлена ўрачыстая Пастэрка. У святую ноч, калі сотні вернікаў, што сабраліся ў святыні, у вялікай задуменнасці затрымаліся перад загадкавай таямніцай прыходу на гэты свет Божага Сына, нашага Збавіцеля, кс. бп Аляксандр Кашкевіч унёс фігуру Дзіцятка Езус і паклаў яе ў яслі. У гэты ж час у касцёлах дыяцэзіі, як і ва ўсёй краіне, адпраўляліся св. Імшы на ўспамін чакання і малітвы пастухоў, якія накіроўваліся ў Бэтлеем.

Звяртаючыся да вернікаў з гаміліяй, кс. бп Аляксандр падкрэсліў, што ў вігілію Божага Нараджэння гродзенцы духоўна яднаюцца з усімі братамі і сёстрамі Касцёла Гродзеншчыны, якія сабраліся ў святынях, а таксама з усімі хрысціянамі, рассеянымі па цэлым свеце, што належаць да вялікай сям'і, імя якой – святы каталіцкі Касцёл.

"Наша прысутнасць мае, безумоўна, вялікі сэнс. Мы прыйшлі на Пастэрку не толькі таму, што на яе прыходзілі нашыя продкі, што існуе такая традыцыя, што мы хочам сустрэць тут нашых сяброў і знаёмых. Мы сабраліся тут, каб даць сведчанне нашай веры і любові да Бога, які прыходзіць да нас, утоены ў чалавечым целе, – казаў кс. бп Аляксандр. – Разам з пастухамі, якія некалі першымі ўшанавалі Божае Дзіця на Бэтлеемскіх палях, мы таксама хочам праслаўляць тое слова, што стала целам і пасялілася паміж намі".

Іерарх таксама адзначыў, што нягледзячы на цемру ночы вакол нас, вачамі веры мы заўважаем вялікае святло, якое прыходзіць з вышыні і напаўняе нашыя сэрцы сапраўднай і глыбокай радасцю. Менавіта гэтую радасць меў на ўвазе анёл Пана, калі прамаўляў да напалоханых пастухоў: "Я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, які ёсць Хрыстус Пан". "Гэтая вялікая радасць напаўняе сёння сэрцы хрысціян ва ўсім свеце. У гэтую бласлаўлёную ноч Бог адорвае людзей самым каштоўным дарам, ссылаючы на зямлю свайго адзінага Сына. Народжаны Марыяй, Божы Сын становіцца адным з нас.

● працяг на с. 3

### Каляндар падзей

***18 студзеня***
*Сусветны дзень мігранта і бежанца.*

***18–25 студзеня***
*Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян.*

***24 студзеня***
*Сусветны дзень сродкаў масавай інфармацыі.*

***25 студзеня***
*Свята Навяртання св. апостала Паўла.*

### Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.* ***Кожную нядзелю ў 8.00*** *запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*

***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***19 студзеня***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

### Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

***Ці ёсць пры ўваходзе ў Вашу кватэру надпіс С+М+В?***

- *так*
- *яшчэ не напісаў(ла)*
- *не*
- *я не ведаю, што гэта азначае*

выкажыся

**"Кожны чалавек і кожны народ галодны і сасмяглы супакою" – папа Францішак**



*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

**ХРОСТ ПАНА**

**Мк 1, 7–11**

Ян Хрысціцель прапаведаваў, кажучы: "Ідзе за мною мацнейшы за мяне, якому я не варты, нахіліўшыся, развязаць раменьчык на Ягоных сандалях. Я хрысціў вас вадою, а Ён будзе хрысціць вас Духам Святым".

І сталася ў тыя дні, прыйшоў Езус з Назарэта, што ў Галілеі, і быў ахрышчаны Янам у Ярдане. І адразу, калі выходзіў з вады, убачыў нябёсы раскрытыя, і Духа, як голуба, сыходзячага на Яго. І пачуўся голас з нябёс: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я".

## ХРОСТ У ЯРДАНЕ – ПРАЛОГ ЗБАЎЧЫХ СПРАЎ

Хто сярод прысутных на беразе Ярдана зразумеў сутнасць апісанай падзеі? Там жа было шмат людзей! У большасці сваёй яны мелі добрыя намеры і сэрцы, адкрытыя на прыход Божага Месіі – яны прыйшлі да Яна, каб слухаць яго навуку пра неабходнасць навяртання, былі гатовыя выпростваць сцежкі чаканаму Збаўцы. Многія рашаліся змяніць жыццё, знакам чаго было прыняцце ў рацэ хросту пакаяння. Аднак хрост Пана Езуса ў Ярдане адбыўся быццам бы непрыкметна. Сама Асоба Збаўцы для сведкаў падзеі засталася таямніцай. Не сумняваўся толькі Ян Хрысціцель, калі, указваючы на Пана Езуса, сказаў: "Вось Баранак Божы, які бярэ на сябе грахі свету". І хаця столькі вучняў Яна пайшло за Езусам, рэакцыя прысутных не перадавала велічы таго, што здарылася. Толькі праз некалькі гадоў, ужо пасля ўваскрашэння Хрыста, успамін пра хрост у Ярдане даў магчымасць зразумець важнасць падзеі. Гэта Сын Божы распачынае сваю грамадскую дзейнасць: абвяшчае людзям Добрую Навіну, кладзе пачатак Божаму Валадарству на зямлі, а сваю місію пацвярджае незвычайнымі знакамі. Урэшце Ён замацуе навуку пакутай, смерцю і ўваскрашэннем. Усе намаганні Езуса будуць накіраваны на змаганне са злом, якое зняволівае чалавека. Для каго ўсё гэта? Для людзей грэшных, закранутых слабасцямі цела і душы. Пан Езус, які стаіць у чарзе грэшнікаў, што чакаюць хросту ад Яна, з'яўляецца прадвесцем Галгофы, дзе Божы Сын аддаваў свае цела за грахі свету, павешаны на крыжы паміж двума злачынцамі. Калі кагосьці не кране да глыбіні і гэтая падзея, то ён не зможа зразумець ані Езусавай навукі, ані Яго ўчынкаў. Ён застанецца ўсяго толькі гледачом здзейсненай драмы.

**2 НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ**

**Ян 1, 35–42**

Стаяў Ян Хрысціцель і двое з вучняў ягоных і, калі ўбачыў Езуса, які ішоў, сказаў: "Вось Баранак Божы". І пачулі двое вучняў яго, што ён сказаў, і пайшлі за Езусам.

А Езус, азірнуўшыся і ўбачыўшы, што яны ідуць за Ім, сказаў: "Чаго шукаеце?"

Яны сказалі Яму: "Раббі (што азначае «Настаўнік»), дзе жывеш?"

Ён сказаў ім: "Ідзіце і ўбачыце". Яны пайшлі і ўбачылі, дзе Ён жыве, і засталіся ў Яго ў гэты дзень. Было ж каля дзясятай гадзіны.

Андрэй, брат Сымона Пятра, быў адным з двух, якія пачулі ад Яна пра Езуса і пайшлі за Ім. Знайшоў ён спачатку брата свайго Сымона і кажа яму: "Мы знайшлі Месію" (гэта значыць Хрыста). І прывёў яго да Езуса. Езус, глянуўшы на яго, сказаў: "Ты Сымон, сын Яна; ты будзеш названы Кефас"(што азначае Пётр, скала).

## ЯК СТАЦЬ ВУЧНЕМ ЕЗУСА

Гэта складаны працэс паклікання, ці як стаць вучнем Езуса. Ён датычыцца не толькі святароў, біскупаў ці кансэкраваных асоб – тых, хто жыве ў кляштарах. Апісаная гісторыя з'яўляецца супольнай для ўсіх веруючых хрысціян.

Каб належаць да кола вучняў Езуса, трэба быць побач з Ім. Часцей за ўсё там будзе хтосьці, хто нам Яго пакажа, так, як для Андрэя і Яна гэта зрабіў Ян Хрысціцель. А калі мы вырашым пайсці з Ім, хутчэй за ўсё мы пачуем гэтае асноўнае пытанне: "Чаго вы шукаеце?" Гэтае пытанне можна растлумачыць так: якія вашыя чаканні ў дачыненні да веры, да самога Езуса? Ён дазволіць пазнаць Сябе бліжэй, калі мы будзем гатовы пайсці за Ім, не шукаючы якіхсьці гарантый і ўпэўненасці ў будучыні. Звычайнае быццё з Езусам і паслушэнства Яго слову даюць магчымасць адкрыць у Ім Месію. У Евангеллі апісаны крытэрый сапраўднасці веры і паклікання: Андрэй не захаваў свайго адкрыцця толькі для сябе. Ён адчуваў неабходнасць падзяліцца ім з братам. Гэтым самым ён увёў у кола Настаўніка чарговага вучня – Пятра. Евангелле ставіць кожнаму з нас пытанне: дзе я знаходжуся на этапе маёй веры? Я ўжо пачуў пра Езуса? Я ўжо вырашыў пайсці за Ім, ужо адказаў на пытанне: чаго я шукаю ў веры? А можа, я ўжо гатовы шукаць іншых людзей для Езуса? Не трэба здзіўляцца: пытанняў будзе заўсёды больш, чым адказаў.

# Запраектаваць сваё жыццё з Богам

**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*



"У новы год мы павінны ўваходзіць з Езусам Хрыстом, нараджаным з Дзевы Марыі, і ўносіць Яго бласлаўленне ў нашае жыццё", – так заахвочваў усіх сабраных у катэдральнай базіліцы вернікаў наш кс. бп Аляксандр Кашкевіч падчас Эўхарыстыі на Новы год. Гэтымі ж словамі я вырашыў распачаць сваё першае сёлетняе разважанне, паколькі гэта вялікае заданне для кожнага з нас. Яно не вельмі лёгкае, але з Божай дапамогай яго ўдасца выканаць. Больш таго, гэта заданне не толькі на новы год, але і на ўсё жыццё. Калі хтосьці яшчэ не ўзяўся за яго выкананне, раю не адкладваць на апошнюю хвіліну, паколькі ніхто не ведае, калі гэтая хвіліна надыдзе. Калі ёсць тыя, хто ўжо паспрабаваў прыняць гэтыя словы ў сваё жыццё, яны бясспрэчна цешацца жыццём з Богам. А таму варта запраектаваць сваё жыццё па Божым прыкладзе і напоўніць яго Божым бласлаўленнем ужо на пачатку года.

Калі мы штосьці плануем ці праектуем, у нас ёсць пэўная мэта. Мы стараемся спланаваць усё так, каб дасягнуць гэтай мэты. Калі нам гэта не ўдаецца, мы пераконваемся, што пэўныя нашы разлікі былі памылковымі. Некаторыя з іх мы можам выправіць, але ёсць і непапраўныя памылкі. У духоўным жыцці мы таксама маем нейкія планы і пастановы. Але мы павінны рабіць іх разам з Езусам, які не дапусціць, каб мы зрабілі памылку, бо для нашай душы яна можа быць смяротнай. Божае бласлаўленне спрыяе таму, што чалавек знаходзіць свой жыццёвы шлях, ідучы па якім ён праектуе сваё жыццё так, як гэтага жадае Бог для карысці самога чалавека. Не трэба баяцца Пана Бога, паколькі Ён нас не абмяжоўвае, не трымае на прывязі, а наадварот – праз сваю прысутнасць дае нам шмат для працы, дае нам цэлы свет. Мы можам прыгадаць першых людзей, розных пракрокаў, намашчаных Богам, Яна Хрысціцеля, святых, праз заступніцтва якіх мы молімся і г.д. У гэтае кола ўпісана і гісторыя нашага жыцця.

У сённяшні час нам усім неабходны супольнасны духоўны пошук і змена свядомасці. Гэта самыя важныя аспекты рэлігійнай актыўнасці, якіх сёння нам, вернікам Беларусі, не хапае. Размаўляючы з рознымі людзьмі, я заўважаю, як яны нанова адкрываюць Бога, як пачынаюць разумець сапраўдны сэнс веры, жыцця з Богам, неабходнасць вывучэння Бога і прысутнасці Касцёла ў іх жыцці, як яны адчуваюць сябе шчаслівымі з-за таго, што ідуць да споведзі, на нядзельную Эўхарыстыю, што дзеці і моладзь маюць сёння мноства магчымасцей менавіта ў Касцёле знайсці сябе і сустрэць Бога. Давайце запраектуем сваё жыццё так, каб быць шчаслівымі і ўдзячнымі за мноства ласкаў, якімі Бог нас адорвае, а таксама дзяліцца гэтымі ласкамі з іншымі.

*У новым 2015 годзе мы хочам паволі запраектаваць таксама нашу газету, каб яна больш чыталася Вамі, дарагія Чытачы. Мы вырашылі перш за ўсё зрабіць яе каляровай, паколькі ў гэтых колерах схавана прыгажосць Божага стварэння. Нам яшчэ неабходна трохі часу, каб усё адшліфаваць, таму прашу Вас набрацца цярплівасці ў гэтым нашым праектаванні для Вас. Калі ў Вас ёсць нейкія прапановы, дасылайце іх на адрас нашай рэдакцыі. У гэтым годзе свет убачыць шмат новых і цікавых артыкулаў, мы плануем паказваць жыццё простых людзей, прыклад якіх захопіць не аднаго з нас. Мы спадзяёмся, што з Божай дапамогай новыя праекты нашай газеты Вы ўспрымеце пазітыўна.*

*Мы ўжо ўвайшлі ў новы год разам з Езусам і запрашаем кожнага з Вас, нашы дарагія і любімыя Чытачы, з Божым бласлаўленнем запраектаваць сваё жыццё разам з намі.*

# УВАГА! ШУКАЕМ ТРОХ КАРАЛЁЎ!

*Больш за дзве тысячы гадоў у яўрэйскі горад Бэтлеем прыбылі Каралі. Іх туды прывяла зорка, што спадарожнічала ім у дарозе і ўказвала мэту падарожжа. Прыйшоўшы на месца, паказанае зоркай, Каралі знайшлі Маці і Дзіця. Яны распазналі ў гэтым Дзіцяці новanароджанага Валадара. Ахвяравалі Езусу свае дары – золата, ладан і міра, пакланіліся Яму і вырушылі ў зваротны шлях, несучы радасную навіну пра Нараджэнне Божага Сына. Але ці ўсе чулі гэтую навіну?*



Каралі з'яўляюцца сімвалам свету, які прыходзіць аддаць паклон новanароджанаму Месіі

Святы Божага Нараджэння мінулі, і людзі зноў вяртаюцца да свайго штодзённага ладу жыцця. Адыходзіць таксама і радасць, якую яны прынесьць, да нас вяртаецца клопат пра штодзённасць. Можа ў некаторых дамах нават і не было месца для гэтай радасці, якая выплывае з Божага Нараджэння. Можа Каралі, якія неслі гэтую навіну, дзесьці заблукалі і не дайшлі?

Такія пытанні нараджаюцца ў маёй свядомасці таму, што ў нас знікае традыцыя пазначэння дзвярэй нашых кватэр першымі літарамі імён Каралёў, якія неслі навіну пра нараджэнне Езуса. Аднойчы я спытаўся ў пэўнай сям'і, чаму яны не напісалі на дзвярах сваёй кватэры "С+М+В". Гаспадар адказаў, што яны толькі нядаўна ўставілі новыя дзверы і ім проста не хочацца забруджваць іх! Я быў у шоку.

Хочацца таксама адзначыць, што гэтая традыцыя асаблівым чынам зацікавіць ў гарадах, бо людзі баяцца пісаць гэтыя літары на знешняй старане дзвярэй, паколькі яны пераканы, што вера – гэта іх прыватная справа. А гэты надпіс на дзвярах нашага дома з'яўляецца своеасаблівым вызнаннем веры і прызнаннем у ёй, таму што мы даём сведчанне тым, хто праходзіць побач з нашымі дзвярыма. Мы сведчым аб тым, што радуемся нараджэнню Божага Сына, што гэтая радасць будзе ў нашым доме яшчэ адзін год, што гэтая радасная навіна дайшла і да нас. А наколькі прыгожае іншае значэнне гэтых літар: "Christus Mansionem Benedicat", што з лацінскай мовы перакладаецца: "Няхай Хрыстос бласлаўляе гэты дом". Калі мы пішам гэты надпіс на нашых дзвярах крэйдай, асвечанай у касцёле 6 студзеня, мы такім чынам просім Бога бласлаўлення на чарговы год жыцця.

Таму няхай дзверы кожнага каталіцкага дома будуць пазначаны гэтым надпісам – "С+М+В+2015", каб не гаворачы шмат слоў пра Бога, мы праз гэта давалі сведчанне аб Ім. Мы сведчым таксама аб тым, што Каралі не згубіліся ў незлічонай колькасці вуліц нашых гарадоў, але былі ў нас дома і падзяліліся гэтай радасцю, гэтай раднасной навіной, і таму трох Каралёў не трэба шукаць.

*Дк. Павел Скуба*

# Святы Божага Нараджэння як таямніца любові, радасці і спакою


Пастэрка – гэта цэнтральны пункт святкавання, звязанага з нараджэннем Езуса

• працяг са с. 1

Ён прыходзіць на зямлю, каб нашай чалавечай мовай расказаць пра Бога, які ёсць любоў, прыходзіць, каб абвясціць нам, што ўсемагутны Бог – Пан неба і зямлі – з'яўляецца нашым Айцом, які любіць кожнага з нас і жадае нам шчасця. Прыходзіць, каб жывучы на зямлі навучыць нас, як мы павінны жыць, каб дасягнуць вечнага шчасця на небе", – падкрэсліў пастыр.


Сотні вернікаў прыйшлі ўшанаваць Божае Дзіця

Кс. бп Аляксандр казаў таксама пра тое, што Бог спрадвеку рыхтаваў чалавецтва да прыходу Хрыста. Шмат разоў і рознымі спосабамі Бог некалі прамаўляў праз прарокаў, а ў гэтыя дні Ён прамовіў праз свайго Сына. Гэтага свята не дачакаліся ні патрыярхі Старога Запавету, ні прарокі. Не перажылі гэтую радасць святыя мужы Божыя. Яна з'яўляецца сёння нашай доляй. Таму трэба дзякаваць Богу за тую ноч, якая асвятліла цемру чалавецтва і дазволіла згубленаму, змучанаму, зняволенаму грахом чалавеку з радасцю і надзеяй заглянуць у будучыню.

"Божае Нараджэнне – гэта прадвяшчэнне канца панавання граху і поўнай перамогі ласкі. Сёння да нас прыходзіць Адкупіцель, які на Дрэве Крыжа здзейсніць збаўленне ўсяго людскога роду. У гэтую блаславёную ноч мы з верай і любоўю глядзім на простую і ўбогую стайню. Яна прыгадвае нам, што Божы Сын не выбраў велічны палац, каб нарадзіцца ў ім, не жадаў ушанавання ад вялікіх гэтага свету. Пан Езус нарадзіўся ва ўбогай стайні, каб кожны чалавек, незалежна ад таго, мудры ён і багаты, як Каралі з Усходу, ці ўбогі і просты, як пастухі з ваколіц Бэтлеема, мог свабодна, без страху прыйсці да Яго і пакланіцца Яму. Каб ніводзін чалавек не мог абвінаваціць Езуса ў тым, што Ён не ведаў жыцця. Яго жыццё было вельмі людскім, падобным на жыццё кожнага з нас. Ён прыйшоў на гэты свет так, як і мы – голы, безабаронны і слабы. Як і кожнаму дзіцяці, Яму была неабходна апека Марыі і Юзафа, Ён спазнаў голад і холад, пагрозу ўцёкаў і цяжкасці здабывання штодзённага хлеба. Ён адчуў таксама смак людскіх слёз, боль няўдзячнасці, адмовы і здрады. Урэшце, Ён перажыў балючую і бязлітасную смерць на крыжы. Таму ўсё людское не было Яму чужым. Ён перажыў усё гэта, бо палюбіў чалавека і ў імя гэтай любові стаў адным з нас. Таму свята Божага Нараджэння можна інакш назваць святам аб'яўлення Божай любові", – падсумаваў іерарх.

На заканчэнне Пастэркі кс. бп Аляксандр склаў усім сабраным вернікам святочныя пажаданні, падкрэсліваючы, што святы Божага Нараджэння прыгадваюць нам праўду аб Божай любові.

"Кожны год мы ўрачыста адзначаем гэтыя падзеі, каб нашыя сэрцы яшчэ больш адкрыліся на дар Божай любові, каб мы дазволілі Пану Богу нас пераmяняць, каб вучыліся кожны дзень адказваць на гэтую незразумелую, бязмежную Божую любоў нашай чалавечай недасканалай, але сапраўднай і шчырай любоўю", – сказаў кс. бп Аляксандр.

У святую ноч Божага Нараджэння пастыр дыяцэзіі пажадаў кожнаму сапраўднай хрысціянскай любові, якая мае свае вытокі ў асобе Езуса Хрыста, каб Божае благаслаўленне і багацце ласкі спадарожнічалі кожны дзень, каб у сем'ях запанавала згода, узаемная любоў, дабрыня, павага і зычлівасць. Іерарх ахінуў святочнымі віншаваннямі таксама ўсіх хворых і пакутуючых, адзінокіх і тых, хто па прычыне пажылога ўзросту ці хваробы не змог прыйсці ў святыню. "Яны прысутнічаюць у маім сэрцы, я даручаю іх Пану ў малітве, каб радасная сустрэча з Хрыстом, які да нас прыходзіць, стала і іх удзелам", – сказаў кс. бп Аляксандр Кашкевіч.


Кс. бп Аляксандр Кашкевіч дзеліцца аплаткай з вернікамі ў гродзенскай катэдры

Затым гродзенскі ардынарый і іншыя душпастыры падзяліліся белай, як снег, аплаткай амаль з усімі сабранымі ў катэдры вернікамі. Гэты цудоўны жэст прыгадаў усім, што ламаючы кавалачак "анёльскага хлеба", мы дзелімся з бліжнімі любоўю, дабрынёй і добразычлівасцю.

**Кінга Красіцкая**

---

## Слова для Жыцця



### Папа Францішак



Пасланне, якое перадае нам Святая Сям'я, гэта перш за ўсё пасланне веры. У сямейным жыцці Марыі і Юзафа Бог сапраўды знаходзіцца ў цэнтры – у асобе Езуса. Сям'я з Назарэта таму і святая, бо канцэнтруецца на Езусе.

Калі бацькі і дзеці разам дыхаюць гэтай атмасферай веры, яны маюць энергію, якая дазваляе ім пераносіць выпрабаванні, у тым ліку і такія складаныя, якія паказвае нам вопыт Святой Сям'і, што павінна была ўцякаць у Егіпет.

Дзіцятка Езус са сваёй Маці Марыяй і св. Юзафам з'яўляюцца іконай сям'і – простай, але такой выразнай. Той бляск, які зыходзіць ад іх, з'яўляецца святлом ласкі міласэрнасці і збаўлення для ўсяго свету, святлом праўды для кожнага чалавека, для чалавечай сям'і і кожнай сям'і асобна.

*Анёл Панскі са Святым Айцом, 28.12.2014*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



Пачынаючы ад бэтлеемскага грота, Бог спадарожнічае грэшнаму чалавеку, раздзяляе яго радасці і смутак, дапамагае яму і дае надзею. Ён не саромеецца духоўнай прыніжанасці чалавека. Наадварот, Ён уваходзіць у яе, выбірае чалавечую прыроду сваім інструментам і здзяйсняе цуды там, дзе на гэта ніхто не спадзяецца. Такім чынам, Ён дае нам магчымасць адчуць Яго блізкасць. Ці не здзіўляе нас гэта? Ці не павінны мы дзякаваць Богу за гэты дар? Ці не павінны дзяліцца гэтым дарам з іншымі, асабліва з тымі, хто яшчэ не пазнаў Бога?

Божае Нараджэнне не завяршылася 2000 гадоў таму ў Бэтлееме, яно працягваецца. Бог і сёння шукае нашыя сэрцы і стукае ў іх, каб там нарадзіцца. Для гэтага неабходна паступіць так, як паступіла Марыя: згадзіцца з Божай воляй. Тады Бог зробіць нам новы сюрпрыз, нават калі мы вельмі аддаліліся ад Яго. Ён заўсёды спяшаецца са сваёй дапамогай. Усё залежыць толькі ад нас саміх. Нездарма святы Аўгустын кажа: "Божа, Ты стварыў мяне без мяне, але не можаш мяне збавіць без мяне".

*Фрагмент гаміліі на Божае Нараджэнне*




*Кс. Ян Раманоўскі*

◆ У Германіі, у каталіцкім касцёле ў Райдт, мусульманскія дзеці знішчылі калядную шопку. Аб гэтым паведаміла паліцыя, не падаючы, аднак, нічога на тэму рэлігійнай прыналежнасці гэтых дзяцей. У Вігілію ў касцёл увайшлі чацвёра дзяцей і адзін малады хлопец, якія знішчылі шопку і абражалі сабраных вернікаў. Газеты апісваюць іх як мусульман.

◆ У Францыі 1 студзеня бягучага года памёр самы старэйшы біскуп свету Жэры Лёйя, ардынарый французскай дыяцэзіі Амьен у 1963–1985 гадах. Ён праславіўся тым, што, жадаючы поўнасцю змяніць стыль жыцця і паслугі Касцёла, прадаў дыяцэзіяльную нерухомасць і пасяліўся ў кватэры. Бп Жэры Лёйя пражыў 105 гадоў. На сённяшні дзень самым старэйшым біскупам свету з'яўляецца Пітэр Леа Джэрэт – народжаны 19 ліпеня 1912 г. арцыбіскуп мітрапаліт Ньюарка ў ЗША.

◆ У Італіі распаўсюджаная праз СМІ гадавая справаздача Інстытута сацыяльных даследаванняў "Demos" „Італьянцы і дзяржава" паказвае ўзровень даверу да ўлад і найважнейшых устаноў. Большасць апытаных перастае верыць дзяржаве, паводле анкет, такіх людзей налічваецца толькі 15%. У сваю чаргу Папу вераць 88% італьянцаў. Аднак, нягледзячы на давер да Святога Айца, памяншаецца ўзровень даверу да Касцёла.

◆ Арганізацыя "Operation Rescue" ("Выратавальная аперацыя") інфармуе, што ў Злучаных Штатах у мінулым годзе было ліквідавана ў суме 73 абартарыя. На сённяшні дзень функцыянуе 739 аб'ектаў, дзе здзяйсняюць хірургічныя ці фармакалагічныя аборты. Па словах абаронцаў жыцця, колькасць абартарыяў паменшылася з 1991 г. амаль на 75%.

◆ Манголія атрымала першага дыякана, які паходзіць з гэтага народа, праз 22 гады пасля адраджэння Касцёла ў краіне. Ім стаў Джозэф Энх-Баатар, які прыняў пасвячэнне ў Тэджоне ў Карэі, дзе новапасвечаны дыякан рыхтаваўся да святарства. Касцёл у Манголіі налічвае каля тысячы вернікаў. Святарскія пакліканні – гэта надзея на развіццё Касцёла ў гэтай краіне.

*Gosc.pl; katolik.ru; pch24.pl; ekai.pl; sedmitza.ru*

# Нарадзіўся вам сёння Збаўца

## *"Слова сталася целам і пасялілася між намі"* (Ян 1, 14).




За сотні гадоў да нараджэння Хрыста ў Бібліі былі запісаны словы прарокаў Ізраіля, якія прадказвалі Яго прыход. У Старым Запавеце, які пісаўся многімі людзьмі на працягу 1500 гадоў, змешчана больш за 300 прароцтваў гэтай падзеі. Першае з іх выказана вуснамі Бога ў прысудзе, які Ён прызначае змею. Гэта быў план выратавання грэшнага чалавека і вяртання яму бессмяротнасці: "І варожасць пакладу паміж табою і паміж Жанчынаю, і паміж патомствам тваім і патомствам Яе; яно раструшчыць тваю галаву, а ты будзеш джаліць яго ў пяту" (Быц 3, 15).




Калі Марыя была ўжо цяжарнай, выйшаў загад рымскага цэзара Аўгуста: дзе б хто не жыў, павінен прыйсці для перапісу ў тое месца, дзе жылі яго продкі. Юзаф і Марыя паходзілі з роду цара Давіда, таму павінны былі ісці ў Бэтлеем. Ад Назарэта да Бэтлеема было болей двухсот кіламетраў. Такое падарожжа ў тыя часы патрабавала некалькіх дзён праз гарыстую Самарыю. Пакуль цяжарная Марыя змагла дабрацца да месца, усе дамы былі ўжо запоўнены людзьмі, што прыйшлі на перапіс. Свабоднай была толькі пячора, куды заганялі авечак у час непагоды. Тут, у пячоры, уся мэбля якой складалася з ясляў з саломай, нарадзіўся Збаўца. Слова сталася целам і пасялілася між намі, Бог стаўся чалавекам.

Бог шмат разоў па-рознаму прамаўляў да чалавека. Цяпер Ён прамовіў да нас праз свайго Сына. Так Бог умілаваў свет, што Сына свайго Адзінароднага даў, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае.

День Божага нараджэння ад IV стагоддзя, часу ўстанаўлення гэтага свята, стаў днём асабліва ўрачыстым у хрысціянскім свеце. Сама падзея нараджэння Езуса Хрыста апісана вельмі суха ў Евангеллях паводле Мацвея (1, 18–25) і Лукі (2, 1–7). Людская набажнасць патрабавала больш шырокага апісання нараджэння Пана. Гэта







прывяло да шматлікіх спроб адлюстравання гэтай тэмы ў розных формах мастацтва, пачынаючы з сярэднявечча да цяперашняга часу. Многія з твораў паслужылі ілюстрацыямі да шматлікіх паштовых марак, якія выпускаюцца амаль ва ўсіх краінах свету. На марках з'яўляюцца відарысы твораў Рафаэля і Джота, Дзюрэра і Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла і Тыцыяна, Батычэлі і Рубенса, Берніні і Пусэна, Рэмбранта і Караваджа...

У першай палове XV стагоддзя асаблівых рыс набрала сцэна нараджэння Хрыста, якая атрымала назву "Ушанаванне Дзіцятка". Яна стала адной з найважнейшых ілюстрацый тэмы прыходу Езуса на свет.

Першая марка, прысвечаная Божаму Нараджэнню, з'явілася 7 снежня 1898 года. Пошта Канады выпусціла марку (Мі. 74), на якой была адлюстравана карта свету з надпісам CHRISTMAS. Гэтая марка дала пачатак новай тэме ў філатэліі. З таго часу колькасць марак, прысвечаных Божаму Нараджэнню, вырасла да тысяч і выдаецца поштамі, хіба, усіх краін свету. З-за немагчымасці адлюстраваць і апісаць такую колькасць марак, прапануем толькі некалькі прыкладаў.

У 1986 годзе пошта Германіі выпусціла марку і картмаксімум (паштоўка з наклеенай на вонкавай старане маркай з такім самым матывам, пагашанай паштовым штэмпелем такога ж матыву) з відарысам Ортэнбергерскага алтара (Ortenberger Altar) з 1430 года. Цудоўны вобраз укленчанай Марыі ў ціхім ушанаванні і малітве перад ляжачым маленькім Дзіцяткам. Марыя нарадзіла Яго і першая аддала ўшанаванне і паклон Дзіцятку, згодна са словамі Святога Пісання: "Якога нарадзіла і ўшанавала...". Дзіцятка, лежачы ў яслях з правай рукой у жэсце блаславення, сімвалізуе Боскасць і паўнату розуму ад хвіліны свайго нараджэння. Паказаная далей стайня, вельмі ўбогая, сімвалізуе руіны дому Давіда, які калісьці быў каралём, і надыход новай эпохі. Бо нарадзіўся Той, чыё валадарства будзе "зацверджана навекі", які збудуе "новы дом".




Амаль люстраное адбіццё малюнка з маркі Германіі мы бачым на выпушчанай у 1998 годзе марцы пошты Польшчы. Ілюстрацыя ўзята з Грудзяцкага алтара (каля 1390 г.), які захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

Карціна, намаляваная мастаком Антоніо Карэджа (1489–1534) больш за сто гадоў пазней, поўнасцю захоўвае папярэднюю сімволіку. Карціна адлюстравана на адным з самых вялікіх блокаў (173 х 235 мм), які выпушчаны поштай Карэі ў 1983 годзе.

Першая беларуская марка, прысвечаная нараджэнню Езуса Хрыста, надрукавана 23 снежня 1997 года. На марцы адлюстраваны звычай калядавання на свята Божага Нараджэння, калі калядоўшчыкі ў калядных касцюмах і з Бэтлеемскай зоркай абходзяць дамы вернікаў і спяваюць калядныя песні.

***Святы час Божага Нараджэння злучае нашыя думкі і сэрцы, аб'ядноўвае нас сілаю любові Бога да чалавека і чалавека да Бога, напаўняе радаснай удзячнасцю, якую мы прыносім Айцу за Яго неабсяжную любоў да людзей, якую Ён аб'явіў у сваім Сыне.***




*Лявон Карповіч*
*Лунна, 2011*

## Бп Юзаф Станеўскі сустрэў Новы год з лідскімі вернікамі

*У апошні дзень 2014 года і першы дзень новага 2015 года дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзначаліў святыя Імшы ў лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа (Фара). Іерарх сустрэўся з вернікамі, каб выказаць ім сардэчныя віншаванні з Новым годам, а таксама разам памаліцца.*



31 снежня ў лідскім касцёле адбылася Імша падзякі за 2014 год. Як адзначыў біскуп Юзаф Станеўскі, гэтая Імша выключная, паколькі падчас яе "мы дзякуем Богу за ўсё дабро, якое ў мінулым каляндарным годзе стала нашым удзелам, а таксама просім прабачэння за ўсё тое, у чым не да канца былі вернымі Яму".

Іерарх адзначыў у гаміліі, што свет змяняецца вельмі хутка, і параўнаў чалавека і дадзены яму час са свечкай, якая гарыць. "Гэтая свечка мае свой канец, мяжу, калі проста спаліцца і згасне. Але мы верым, што кожная свечка запалена Богам", – сказаў біскуп.

1 студзеня, ва ўрачыстасць Святой Багародзіцы Марыі, біскуп Юзаф Станеўскі ў гаміліі падчас Імшы нагадаў, што 1 студзеня адзначаецца Сусветны дзень міру. Іерарх заклікаў будаваць мір найперш у саміх сабе, у ваіх сем'ях і асяроддзях, каб такім чынам спрыяць будаванню прыгажосці ў свеце. Па прыкладзе св. Яна Паўла II іерарх папрасіў удзельнікаў Імшы аб "міры, які нясе прабачэнне", дадаўшы, што прабачэнне – адзіны шлях да міру.

## "Мой адказ Богу"

*Пад такім заклікам прайшлі сёлетнія студзеньскія сустрэчы для юнакоў у Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, на якія сабралася моладзь з Ліды, Гродна, Ашмян, Смаргоні, Жодзішкаў і іншых мясцовасцей Гродзенскай вобласці.*



Паводле галоўнага арганізатара рэкалекцый кс. Валерыя Быкоўскага, які з'яўляецца духоўным айцом у семінарыі, мэта гэтага мерапрыемства – "дапамагчы хлопцам распазнаць пакліканне, зрабіць выбар, згодна з якім яны будуць упэўнена крочыць у абраным жыццёвым кірунку: святарстве, сужэнстве або самотнасці".

Асаблівую ўвагу арганізатары звярталі на тое, каб растлумачыць маладзёнам, на чым засноўваецца малітва і як размаўляць з Богам. Асноўнымі пунктамі плану былі разважанні над Божым словам, св. Імша, малітвы і сустрэчы.

## Навагодняя сустрэча Таварыства Святой Сям'і з Назарэта

*Сустрэчу, якая праходзіла з 31 снежня па 2 студзеня ў Навагрудку ў кляштары сясцёр назарэтанак, праводзілі сёстры назарэтанкі і кс. Аляксандр Фаміных. У ёй прыняло ўдзел каля 40 чалавек — сем'і з Гродна, Смаргоні і Навагрудка.*



Падчас сустрэчы Таварыства павялічылася яшчэ на аднаго члена — Віктара Цяханскага са Смаргоні.

Сем'і сустракалі Новы год у капліцы падчас адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і Эўхарыстыі. Гэтай традыцыі сёлета споўніўся ўжо шосты год. Падчас Эўхарыстыі кожная сям'я атрымала свайго святога заступніка (картку з імем святога з інтэнцыяй на гэты год), які будзе апекаваць гэтай сям'ёй на працягу года. Затым адбыўся традыцыйны карнавал.

## "Да Бэтлеема не так далёка..."

*28 снежня, у нядзелю Святой Сям'і, дзеці і моладзь парафіі ў Сапоцкіне прадставілі містэрыю на тэму Божага Нараджэння. У прадстаўленні было задзейнічана каля 30 чалавек.*



Галоўнай мэтай прадстаўлення было нагадаць сабраным пра тое, што Езус прыходзіць да чалавека праз іншых людзей. Малады артысты, разыгрываючы розныя сітуацыі, узятыя з жыцця, заахвочвалі да разважання над сваім стаўленнем да бліжніх.

Выканаўцы паказалі, што Езуса Хрыста можна сустрэць таксама ў штодзённым жыцці: у прыродзе, у бліжніх, у розных жыццёвых падзеях, а таксама заахвоцілі, каб сучасны чалавек быў адкрыты на ўсё, што прыходзіць.

Праз святочнае прадстаўленне падкрэслівалася важнасць служэння іншаму чалавеку згодна са словамі Езуса Хрыста: "Тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25, 40).

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

## Рухомая батлейка ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля

*Незвычайная батлейка прыцягвае ўвагу не толькі парафіян, але і шматлікіх жыхароў горада. Батлейка ў парафіі, дзе служаць айцы рэдэмптарысты, пачала дзейнічаць 24 снежня 2014 г.*



Рухомыя фігуркі батлейкі, якія кланяюцца, танцуюць, становяцца на калені, выклікаюць вялікую цікавасць не толькі ў дзяцей, але і ў дарослых.

Можна сказаць, што ў батлейцы пераплятаюцца мінулае з сучасным. У яе цэнтры знаходзяцца Дзіцятка Езус, Марыя і Юзаф, пастушкі, Мудрацы з Усходу, анёлы, а вакол іх рухаецца жыццё. Тут прысутнічаюць танцоры ў традыцыйных нацыянальных касцюмах, грае аркестр, едуць аўтамабілі, у неба ўзносіцца самалёт – усё гэта кажа пра штодзённыя клопаты чалавека.

4 студзеня батлейку наведаў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, а таксама працаўнікі чыгункі з усёй дыяцэзіі, якія ў гэты дзень сабраліся на аплаткавай сустрэчы.

У сувязі з судовым працэсам у касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі просім
**Журневіч Уладзіміра Уладзіміравіча**
**і Якавіцкага Уладзіміра Іванавіча**
звярнуцца ў касцёльны суд у Гродне па адрасе
**вул. К. Маркса, 4, або па тэлефоне**
**80152-75-64-37.**
Просім таксама чытачоў, якія ведаюць адрас жыхарства ці нумар тэлефона Журневіч Уладзіміра Уладзіміравіча і Якавіцкага Уладзіміра Іванавіча, падаць гэтую інфармацыю ў касцёльны суд.

**У Сапоцкіне адбудзецца прагляд калядак і пастаралак.**
Прагляд, запланаваны на **31 студзеня**, пройдзе ў Доме культуры.
Вечар, прысвечаны спеву калядак і пастаралак, па традыцыі арганізуецца сапоцкінскай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і пройдзе ўжо ў 14-ы раз.
**Пачатак у 18.00.**
Да ўдзелу запрашаюцца гурты, хоры, індывідуальныя выканаўцы. Кожны гурт або саліст могуць прадставіць максімум тры творы.
Аб сваім удзеле праінфармаваць
**кс. Антонія Абухоўскага, пробашча парафіі ў Сапоцкіне, да 20 студзеня па тэлефоне:**
**(+375 29) 888-18-29, (8 015) 299-21-30**

**Хор "Sursum Corda"**
(дырыжор – Алена Саковіч, акампаніятар – Ігар Макавецкі)
**сардэчна запрашае**
**25 студзеня 2015 г. на 19.00**
на святую Імшу і канцэрт калядак у касцёл
св. Францішка Ксаверыя ў Гродне

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці віншуеце Вы са святамі Божага Нараджэння?***

| | |
|---|---|
| **20,7%** | *так, за вігілійным сталом* |
| **4,9%** | *так, высылаю паштоўкі* |
| **2,4%** | *так, тэлефаную* |
| **12,2%** | *так, высылаю СМСкі* |
| **4,9%** | *так, высылаю е-мэйлы* |
| **47,6%** | *усе пералічаныя вышэй пункты* |
| **3,7%** | *не, бо мяне ніхто не віншуе* |
| **3,7%** | *не, не маю такой традыцыі* |

*Верагоднасць таго, што хтосьці ў святы Божага Нараджэння не складае віншаванняў, вельмі малая. Нас жа цікавіла тое, якім чынам нашыя рэспандэнты віншуюць адзін аднаго. У сучасную эпоху можна складаць віншаванні рознымі спосабамі, якія і былі ўключаны ў апытанне. Пажаданні складаюцца як вусна, так і пры дапамозе разнастайных тэхнічных сродкаў.*

***Чарговыя рэзультаты апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***кс. Павел Салабуда***

*Чарговае апытанне пацвярджае той факт, што сучасны чалавек з'яўляецца сынам сваёй эпохі. Нікога не здзіўляе, што віншаванні перасылаюць праз інтэрнэт, напр. пры дапамозе е-мэйл ці розных сацыяльных старонак, а таксама пры дапамозе тэлефона, хаця б праз СМСкі. Мы віншуем адзін аднаго за вігілійным сталом, а таксама дзелімся цеплынёй і радасцю свят Божага Нараджэння са сваімі блізкімі, высылаючы ім паштоўкі. Напэўна, атрымліваючы такія пажаданні, кожны ўсцешыцца, што хтосьці памятае пра нас і перасылае мноства цёплых слоў на свята. Але я хацеў бы таксама звярнуць увагу на тое, каб мы не забываліся, аб чым гаворым у гэтыя дні. Няхай гэтыя пажаданні, што плывуць з нашых сэрцаў, будуць пацверджаны таксама нашым штодзённым жыццём.*

## З каталіцкага друку




***Самая вялікая рухомая шопка***

***Самая вялікая рухомая шопка свету знаходзіцца ў мястэчку Сан-Пайю-дэ-Алейрушэ ў Паўночнай Партугаліі. Яна займае плошчу каля 4000 м². У яе склад уваходзіць звыш 8000 фігур, якія прадстаўляюць людзей, анёлаў, жывёлу і будынкі.***

Шопка, якая налічвае больш за 160 механічных фігур, у мінулым годзе трапіла ў Кнігу рэкордаў Гінэса. Раней тытул самай вялікай пабудовы такога тыпу з рухаючыміся фігурамі належаў шопцы ў Мексіцы.

Сярод постацей, што ў апошнім годзе былі далучаны да шопкі, папа Францішак. Ён не адзіны Папа ў экспазіцыі. Тут знаходзіцца таксама фігура св. Яна Паўла II. Польскі Папа прадстаўлены падчас сустрэчы з сястрой Луцыяй, візіянеркай з Фацімы. Сустрэча адбылася ў час пілігрымкі Святога Айца ў Партугалію.

Шопка ў Сан-Пайю-дэ-Алейрушэ дазваляе наведвальнікам пазнаёміцца з гісторыяй хрысціянства і Касцёла ў Партугаліі. Частка экспазіцыі была прысвечана фальклору гэтай краіны, а таксама цыклічным падзеям, якія адбываюцца на яе тэрыторыі, напр. святам гарадоў, рэлігійным працэсіям ці спартыўным мерапрыемствам.




***Алі Агджа наведаў магілу Яна Паўла II***

***Турэцкі тэрарыст, які цяжка параніў Яна Паўла II 13 мая 1981 года, склаў кветкі на яго магіле ў базіліцы св. Пятра. Агджа здзейсніў гэта ў 31-ю гадавіну размовы з Папам у рымскай турме.***

Тэрарыст прынёс на магілу Яна Паўла II у капліцы св. Себасцьяна ў базіліцы два букеты белых руж.

Чалавек, які спрабаваў забіць Папу, пасля 19 гадоў, праведзеных у італьянскай турме, а затым пасля адбывання пакарання ў Турцыі, ужо некалькі гадоў знаходзіцца на свабодзе.

Агджа ніколі не падаваў дакладнай версіі пакушэння на плошчы св. Пятра і ўказваў розныя матывы. Папа, якому ўратавалі жыццё ў клініцы Джэмэлі, двойчы прабачыў яму.

***Кінга Красіцкая***

## Лепш пытаць, чым памыляцца




### Можно ли крестить жертву аборта и заказать за неё Мессу?

Согласно католическому вероучению, нельзя с уверенностью утверждать, что некрещеные и неродившиеся дети попадают в лимб. Такое предположение было характерно для богословов прежних эпох, и хотя оно не было осуждено Церковью, оно никогда не было её официальным учительством.

Между тем, богословие развивалось, и в сегодняшнем Катехизисе Католической Церкви учение об участи некрещеных детей основывается на вере в Божественный замысел о всеобщем спасении, выраженный словами святого апостола Павла: «Бог хочет, чтобы все люди спаслись и достигли познания истины» (срав. 1 Тим 2, 4). Вот, что говорится в Катехизисе: «Что касается детей, умерших некрещеными, то Церковь может только вверить их милосердию Божию, как она делает это в обряде погребения некрещеных детей. Действительно, великое Божие милосердие, которое хочет, чтобы все люди были спасены, и любовь Иисуса к детям, о которой Он говорит: "Пустите детей приходить ко Мне и не препятствуйте им" (Мк 10, 14), – позволяют нам надеяться, что для детей, умерших без крещения, существует путь спасения» (1261). Наша надежда основана на вере в благодать, которую Бог может даровать этим детям каким-то неведомым нам образом, ведь без благодати никто не может попасть в Рай.

Итак, можно ли совершить «крещение желания» над ребенком, от которого мать избавилась путем прерывания беременности? Ответ отрицательный: если бы можно было совершать «крещение желания» над кем-либо, то следовало бы распространить его на всех, кто нуждается в спасительном Таинстве. Одного желания недостаточно. Иначе Иисус бы не наказал Апостолам крестить людей, ведь одного Его желания спасти всех людей было бы более чем достаточно.

Можно ли совершать Мессу за этого ребенка? Да, конечно, можно совершить святую Мессу в его честь, молясь о его помощи с Небес. Но нельзя совершить за него заупокойную Мессу, поскольку, согласно нашей вере, он находится в Раю, а не в чистилище.

Даже если допустить версию о лимбе для некрещеных младенцев, Церковь никогда не совершала о них заупокойных богослужений, ведь на заупокойной Мессе мы испрашиваем Рая для тех, кто находится в чистилище.

Кроме того, было бы благочестивым жестом совершать Мессы обо всех зачатых младенцах, которые не родятся и не будут крещены. Но мы приносим Евхаристическую жертву не об отпущении их несуществующих грехов, а о том, чтобы Господь, только одному Ему ведомыми путями, даровал им благодать спасения в преизобилии, чтобы их жизнь в Раю была облечена в еще большую славу и чтобы они многих привели к спасению.



Ангеліна Пакачайла

**Хвала Хрысту!**

Вітаю ўсіх чытачоў рубрыкі "На скрыжаванні" ў бягучым 2015-ым годзе! Хутка рубрыцы спаўняецца 4 гады. Каб адчуць, што мы патрэбны адзін аднаму, прапаную прааналізаваць працу моладзевай пляцоўкі і дасланць каментары на адрас, які Вы знойдзеце трохі ніжэй. Рубрыка гатова змяняцца з улікам Вашых пажаданняў. Разам мы ствараем тое, што цікава нам.

Сёння паспрабуем аб'ектызавацца ў пытаннях рэлігійнасці, адчуць падабенства ўсіх веруючых і разабрацца, у што верыць канкрэтна кожны з нас. Нас чакае роздум над простымі паняццямі і пошук сэтасці ў штодзённасці.

**Што ж, з Богам!**

### ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:

**"Бог ёсць Духам, і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе" (Ян 4, 24).**

Мы не бачылі Бога, Ён не адкрываецца нашым вачам. Гэта значыць, што ў Бога няма канкрэтнага месцазнаходжання – Ён усюды. І пакланяцца Яму трэба не ў нейкім вызначаным месцы (напрыклад, касцёле), а душою і чысцінёю розуму паўсюдна.

### СПРАВА МЕСЯЦА:

**паглыбіць веды пра рэлігію, да якой належу**

Часам можна жыць і не ведаць, па якім шляху ідзеш.

"Сусвет пранізаны рэлігійным пасланнем і асвячаецца прысутнасцю сэнсу. У рэлігійным вобразе бацца рэчы і прадметы заўсёды азначаюць нешта большае, чым можна ўявіць на першы погляд. У кожнай з'яве свету праступае нявыказанае, тое, што выступае за межы прыроды", – казаў некалі святар і псіхатэрапеўт з Галандыі Адрыян ван Каам.

Што, чаму, калі і навошта? Не задаючы сабе такіх пытанняў, чалавек рызыкуе "тармазіць" свой духоўны пошук, які яго развівае. Час паглыбіць веды пра рэлігійныя ўяўленні, на якіх базуецца свядомасць, а разам з тым, і вера. Гэта можна зрабіць праз разнастайныя крыніцы: тэксты, аўдыёматэрыялы, відэа, сведчанні і інш.

### ПЕСНЯ МЕСЯЦА:

**"Няхай светам кіруе каханне", Андрэй Алексін**

Неверагодная песня! Глыбокі хрысціянскі сэнс і неадчэпная мелодыя. Упэўнена, што большасць з Вас пасля праслухоўвання будзе напяваць сабе пад нос некаторыя яе радкі.

Усявышні наказаў усім людзям любіць. "Пакуль жывуць на свеце людзі, няхай светам кіруе каханне". Выканаўца заклікае нас не апускаць рукі: "Усё будзе добра, бо ў свеце ёсць любоў". І ты верыш яму! "І не трэба лішніх слоў, так было і заўсёды так будзе".



## ПАГЛЫБІЦЬ ВЕДЫ ПРА РЭЛІГІЮ, ДА ЯКОЙ НАЛЕЖУ

### ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:

**каб людзі, якія належаць да розных рэлігійных традыцый, і ўсе людзі добрай волі супрацоўнічалі ў справе ўмацавання міру**

Усё роўна, хто мы, важна да чаго мы імкнёмся.

Сучасны свет патрабуе падтрымкі. І асабліва ў справе ўмацавання міру. Свой уклад можа зрабіць кожны. Папа Рымскі Францішак прапануе ўсім католікам свету ахвяраваць у студзені свае малітвы ў гэтай інтэнцыі.

### ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА:

**рэлігія**

Сёння ў свеце існуе некалькі соцень рэлігійных традыцый. Яны адрозніваюцца па форме аб'яднання вернікаў, абраднасці, але базуюцца на адных і тых жа нормах маралі. Усе рэлігіі свету вучаць любові, развіццю чалавечай істоты праз духоўную практыку. Усе яны даюць сілу і здольнасць да пераўтварэнняў, каб дасягнуць вышэйшага стану. Падобныя і шляхі дасягнення гэтай мэты – вера, малітва, дабрачыннасць, самадысцыпліна.

Дык чаму ж некаторыя з нас варожа ставяцца да тых, хто называе Бога Алахам або нейкім іншым імем? Мэта кожнага з нас – з'яднацца з Усявышнім. Гэта нас і аб'ядноўвае.

Ці гатовы я роўна ставіцца да верніка іншай рэлігіі? Што мая рэлігія значыць для мяне? Шукаем адказы на пытанні ў студзені.

### МЭТА МЕСЯЦА:

**перагледзець свой светапогляд**

Калі Вы чытаеце гэтыя радкі, то, хутчэй за ўсё, з'яўляецеся веруючым чалавекам, належыце да пэўнай рэлігіі. Яна, мабыць, напаўняе Вашае жыццё нейкім асаблівым значэннем і сэнсам. Але што з'яўляецца Вашым духоўным арыенцірам?

Прапаную паразважаць над такімі, здавалася б, простымі і ў той жа час значнымі паняццямі, як дабро і зло, мараль, мэта, сэнс жыцця... Спрацыяваць іх на сучаснасць і сваё жыццё. Верагодна, Вам адкрыюцца новыя ісціны.

### КНІГА МЕСЯЦА:




**"Гісторыя аднаго «так». Жыццё святога Хосэмары Эскрыва", Мігель Анхель Карсэлес і Ізабэль Тора**

Сёння Хосэмарыю Эскрыва называюць святым "штодзённасці", таму што ён дапамагаў зразумець, што нашы надзённыя справы маюць вялікі сэнс.

З анатацыі да кнігі: "Гады дзяцінства, юнацтва, дарослае жыццё святога Хосэмары праходзяць перад вачыма чытача, як кадры займальнага фільма. Выдатныя ілюстрацыі дапамагаюць наглядна ўявіць сабе жыццё гэтага чалавека. З кнігі чытач пазнае, якія падзеі паўплывалі на жыццё Хосэмары, якія людзі сустракаліся на яго шляху, як ён пераадольваў усе цяжкасці і нягоды жыцця, пакутаваў, радаваўся, змагаўся і... стаў святым. Кніга адрасавана дзецям рознага ўзросту, але будзе цікавай і шырокаму колу дарослых чытачоў".

### АСОБА МЕСЯЦА:

**святы Раймунд з Пеньяфорта**



Нарадзіўся Раймунд у 1175 годзе ў Пеньяфорце – невялікім мястэчку ў Каталоніі – у багатай дваранскай сям'і.

Вучыўся ў Балонскім універсітэце. Там жа атрымаў доктарскія ступені па грамадзянскім і кананічным праве. Некаторы час выкладаў ва ўніверсітэце, узначальваў кафедру права. Хутка заваяваў сваім інтэлектам уплыў пры двары караля Хайме І і стаў каралеўскім спаведнікам.

У 1230 годзе Раймунда выклікаў у Рым папа Рыгор IX. Ён хацеў, каб адзін з лепшых канонікаў часу прыняў удзел у распрацоўцы адзінага зводу кананічнага права. Такім чынам, у 1234 годзе выйшаў першы афіцыйны Кодэкс кананічнага права каталіцкага Касцёла, вядомы як "Дэкрэталіі Рыгора IX" або "Дадатковыя кнігі". Па заканчэнні працы папа Рыгор IX хацеў прызначыць Раймунда на пасаду арцыбіскупа Тарагона, аднак той адмовіўся.

У 1236 годзе Раймунд вярнуўся на Іберыйскі паўвостраў. На два гады ён быў абраны генералам дамініканскага ордэна. У пажылым узросце працаваў у Барселоне над паляпшэннем якасці адукацыі ў дамініканскіх школах. Увёў абавязковае вывучэнне арабскай і яўрэйскай моў для будучых місіянераў. Падтрымліваў і высока ацэньваў працы брата па ордэну святога Тамаша Аквінскага. У прыватнасці менавіта па яго просьбе Тамаш Аквінскі напісаў сваю працу "Сума супраць язычнікаў".

Памёр у Барселоне ў 1275 годзе. Пахаваны ў адным з гарадскіх сабораў. Кананізаваны ў 1601 годзе папам Клементам VIII. Дзень памяці – 7 студзеня. Лічыцца заступнікам юрыстаў, канонікаў, спаведнікаў.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівымі просьбамі аб заступніцтве ў студзені? Св. Здзіслаў (3 студзеня), св. Андрэй (6 студзеня), св. Раймунд (7 студзеня), св. Юліян (9 студзеня), св. Фелікс (14 студзеня), св. Фабіян (20 студзеня), св. Агнешка (21 студзеня), св. Тамаш (28 студзеня), св. Ян Боско (31 студзеня).**

*Дзяліцеся ўражаннямі ад планавання свайго жыцця разам з рубрыкай "На скрыжаванні". Дасылайце лісты на адрас рэдакцыі або на электронны адрас pokachailo.lina@gmail.com. Ініцыятыўных чытачоў аўтар рубрыкі адзначыць прызамі.*




# Ад шчырага сэрца




Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу з нагоды свят Божага Нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, радасці на кожны дзень, моцнай веры, надзеі і любові ў жыцці. Няхай Пан Бог нястомна адорвае Вас усімі сваімі ласкамі, а Маці Божая Вастрабрамская заўсёды мае ў сваёй мацярынскай апецы. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за асвячэнне нашай капліцы, дзе мы цяпер можам праслаўляць Пана, а таксама за памяць. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава ў Каробчыцах*



Дарагім Сёстрам Агнешцы, Аліцыі і Караліне з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем добрага здароўя, сілы ў пераадольванні цяжкасцей штодзённага жыцця, цярплівасці, непахіснай веры, якой Вы дзеліцеся з намі, здзяйснення ўсіх таемных мар і бласлаўлення ад Дзіцятка Езус на кожны дзень новага 2015 года! Дзякуем за спеў, дапамогу, апеку і любоў да кожнага дзіцяці.

*Удзячныя вернікі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*



Прагнем падзякаваць паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму за працу ў парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску, за добрае і заўсёды адкрытае сэрца, за клопат пра нашае духоўнае развіццё. Жадаем шмат Божых ласкаў у новай парафіі. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і блаславёны, св. Заступнік дапамагае рэалізоўваць планы і намеры, а Маці Божая вядзе найпрыгажэйшымі сцежкамі сярод зычлівых і добрых людзей. Няхай Пан Бог аддзячыць Вам за ўсё!

*Удзячныя вернікі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*



Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем штодзённага бласлаўлення ад Дзіцятка Езус, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і ўсяго найлепшага. Няхай здароўе будзе моцным, сілы не слабнуць, усе планы рэалізуюцца, а побач будуць добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Парафіяне з в. Андрэеўцы*



Паважанаму Ксяндзу Пятру Кубелю з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў здароўя, радасці, усмешкі, душэўнага супакою і людской добразычлівасці. Дзякуем Вам за адданую працу. Няхай Божае Дзіця бласлаўляе Вас, а Маці Божая заўсёды мае ў сваёй апецы.

*З малітвай сям'я Амбражук з Больцішкаў*



Паважаны Ксёндз Пробашч Павел Паўлюкевіч! З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб маленькі Езус адорваў Вас здароўем, цярплівасцю і сілай, каб дапамог цешыцца плёнам святарскай паслугі. Для нас Вы заўсёды будзеце яснай зоркай, даючы дабрыню, любоў і цеплыню кожнаму чалавеку.

*З удзячнасцю вернікі з пар. Граўжышкі*



Паважанаму Айцу Люцыяну Дамброўскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, а таксама ўсіх Божых ласкаў і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка. Шчасці Божа!

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Барунаў*

Паважаным Ксяндзам Віталію Цыбульскаму і Юрыю Ёдзіку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем доўгіх гадоў жыцця, здзяйснення мар, спакойных дзён. Няхай кожная Ваша хвіліна будзе сонечнай, радаснай і шчаслівай. Няхай добры Бог асвеціць сваёй ласкай Ваш зямны шлях і адорыць моцным здароўем, а Маці Божая няхай ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі.

*Апостальскі рух "Маргарытка", Ружанцовае кола, Легіён Марыі з парафіі Яна Паўла II у Смаргоні*



Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу і Клерыку Артуру Ляшнеўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, шчодрых дароў Святога Духа, цярплівасці ў кіраванні нашым духоўным жыццём. Няхай Божае Дзіця прамаўляе да Вас праз свае ласкі, пачуццё ўпэўненасці і супакою, а Маці Божая няхай прытуляе Вас да свайго сэрца. Дзякуем за мудрасць, добрыя словы і клопат пра нас. Шчасці Божа!

*З павагай Ружанцовыя колы, Касцёльны камітэт і парафіяне з Дзятлава*



Паважанаму Ксяндзу Казіміру Мураве з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шмат ласкаў ад нованароджанага Дзіцятка Езус і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай усемагутны Бог, які ўказаў Вам дарогу жыцця, узнагародзіць Вас за ўсе малітвы, мудрыя казанні, прыклад пабожнасці і дабрыні, якую Вы для нас зрабілі. Няхай добрая ўсмешка ніколі не знікае з Вашага твару. Шчасці Божа!

*З павагай сем'і Іода, Лях, Валяк*



Паважаным Сёстрам Аліцыі, Ліліяне, Тэрэзе, Караліне, Мірыям, Рэгіне з кангрэгацыі школьных сясцёр Нотр-Дам з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем моцнага здароўя, бязмежных духоўных сіл, доўгіх гадоў жыцця, плённай працы на ніве Пана, бласлаўлення ад Дзіцятка Езус, а таксама дабрыні, сілы і стойкасці ад Яго Маці Марыі. Няхай новы год прынясе Вам мноства новых творчых ідэй і намераў, нязгасны аптымізм у працы, а таксама шмат шчырых і добразычлівых людзей побач.

*З павагай Людміла, Таццяна і Вольга з Дзятлава*



Паважаным Ксяндзам Казіміру Мураве, Алегу Жураўскаму і Андрэю Пышынскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца перасылаем найлепшыя пажаданні: здароўя, шчасця, стойкасці ў душпастырскай працы, усіх Божых ласкаў і апекі Маці Божай. Няхай Ваша дарога будзе шчаслівай і блаславёнай, а выконваемая паслуга прыносіць радасць, задавальненне і шчодры плён. Дзякуем за гады працы ў нашай парафіі і за добрыя словы для кожнага з нас. Няхай Вашы добрыя сэрцы заўсёды будуць адкрыты на людзей.

*Удзячныя парафіяне з Дзятлава*



Паважаныя Ксяндзы Казімір Мурава і Алег Жураўскі! Сардэчна віншуем Вас са святамі Божага Нараджэння і Новага года! Шчыра жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, усмешкі, шчасця, радасці, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар. Няхай народжаны Езус адорвае сваімі ласкамі і бласлаўленнем, а Найсвяцейшая Панна Марыя вядзе Вас найпрыгажэйшым шляхам жыцця, нязменна клапоцячыся і бласлаўляючы Вас. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсё, што Вы зрабілі ў нашай парафіі. Павагі, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Шчасці Божа!

*З удзячнасцю былыя парафіяне з Дзятлава*



Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай нованароджанае Божае Дзіця адорыць Вас усімі ласкамі і напаўняе сэрца супакоем, радасцю і любоўю. Жадаем Вам моцнага здароўя, моцы Святога Духа і штодзённай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

*Вернікі з пар. св. Юрыя ў Варнянах*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Грыцко і яго Маме з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем шчодрых ласкаў ад Божага Дзіцяці на кожны дзень жыцця. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас здароўем, а Маці Божая мае ў сваёй няспыннай апецы. Няхай Вас заўсёды акружаюць добрыя людзі.

*З павагай парафіяне з в. Хадзілоні*



Шаноўным Сёстрам Марыі Стасевіч і Ганне Насевіч з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2015 года перасылаем сардэчныя віншаванні і жадаем, каб нованароджанае Дзіцятка Езус бласлаўляла Вас і адорвала сваімі ласкамі і здароўем на доўгія гады. Шчасці Божа!

*Сям'я Анучка з Раготна*



Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Чургану з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у душпастырскай працы, нястомных сіл і нязгаснай надзеі на кожны дзень. Няхай нованароджаны Езус Хрыстус адорвае Вас сваім бласлаўленнем, а Яго Найсвяцейшая Маці няспынна атуляе сваёй апекай.

*Ружанцовае кола МБ Чанстахоўскай з Юрацішкаў*



Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Віктару Велівісу і Генрыху Яблоньскаму, а таксама Сястры Ядзвізе з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем моцнага здароўя, бязмежных духоўных сіл, доўгіх гадоў жыцця, плённай працы на ніве Пана, бласлаўлення ад Дзіцятка Езус, а таксама дабрыні, сілы і стойкасці ад Яго Маці Марыі. Няхай новы год прынясе Вам мноства новых творчых ідэй і намераў, нязгасны аптымізм у працы, а таксама шмат шчырых і добразычлівых людзей побач.

*Вернікі з пар. св. Казіміра ў Путрышках*



Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем букет найлепшых пажаданняў усіх Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны, мары здзяйсняюцца, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Скярсі і Вялікае Сяло*



Паважаным Ксяндзам Валерыю Быкоўскаму, Паўлу Салабуду і Паўлу Урбану з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем доўгіх, здаровых і шчаслівых гадоў жыцця, здзяйснення ўсіх мар, а таксама шмат радасці ў новым годзе, каб ён стаў самым лепшым годам. Няхай Пан Бог мае Вас у сваёй апецы, Святы Дух узмацняе ў працы, а Найсвяцейшая Маці падтрымлівае ў цяжкія хвіліны святарскай паслугі.

*Удзячныя парафіяне з капл. Бортнікі, Кола жывога Ружанца*



Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы і добразычлівых людзей побач. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе намаганні, клопаты і працу, якія Вы прыкладваеце, каб наблізіць нас да Айца. Шчыра дзякуем Вам за святарскую паслугу, Божае слова, якое Вы нам абвяшчаеце, за малітву і добрае сэрца.

*З павагай "Легіён Марыі" з пар. Божай Міласэрнасці ў Гродне*



Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю з нагоды свят Божага Нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай нованароджаны Хрыстос адорыць Вас усімі сваімі ласкамі і бласлаўленнем, дадасць надзеі на лепшае, паглыбіць любоў і ўзмоцніць сілы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя штодзённа Вамі апекуецца і з упэўненасцю вядзе па выбраным шляху, а Святы Дух няхай спашле на Вас свае шчодрыя дары.

*Парафіяльны хор з Перстуні*



Паважаны Ксёндз Тадэвуш Качан! З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад шчырага сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шчырых людзей побач, поспехаў ва ўсіх Вашых задумах і справах. Няхай добры Пан Бог адорвае Вас сваёй ласкай і супакоем, а Маці Божая і Дзіцятка Езус асвятляюць Ваш жыццёвы шлях промнямі міласэрнасці.

*З удзячнасцю касцёльны хор з пар. Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў в. Канвелішкі*



Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Яну Рэйшалю і Андрэю Кевлюку, Сёстрам Ганне і Кацярыне, Арганістцы Ганне з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні. Жадаем моцнага здароўя, мноства сіл, цярплівасці, нязгаснага запалу ў працы на ніве Пана, бласлаўлення ад Дзіцятка Езус і апекі Яго Маці Марыі на кожны дзень жыцця. Няхай Вашыя сэрцы заўсёды будуць адкрыты на людзей і нясуць ім цяпло і дабрыню. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу, а таксама за Вашы шчырыя і добрыя сэрцы.

*З павагай вернікі з капл. Ліпічна*



Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, нязгаснага запалу для абвяшчэння Божага слова, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцы Святога Духа, шчырых і зычлівых людзей, ажыццяўлення ўсіх мар. Няхай добры Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, нованароджаная Дзіця апекуецца Вамі кожны дзень, а Бэтлеемская зорка прывядзе Вас да шчасця ў новым годзе. Шчыра дзякуем за Вашы малітвы, мудрыя парады, за ўсё, што Вы зрабілі для нас.

*Парафіяне з в. Дварэц*



Паважаным Ксяндзам: Антонію Філіпчыку, Алегу Дулю, Паўлу Эйсманту, Генрыху Яблоньскаму і Дзмітрыю Леўчыку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шмат здароўя, душэўнага супакою і шчодрых Божых ласкаў.

Няхай нованароджаны Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца Вамі.

*III Ордэн св. Францішка з Ваўкавыска*



Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Этэлю з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, нястомнасці ў душпастырскай працы, штодзённай радасці і аптымізму, а таксама душэўнага супакою. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у шчасці, планы рэалізуюцца, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, а міласэрны Бог адорвае Вас усімі ласкамі. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне*



Паважаным Ксяндзам: Пробашчу Яну Этэлю, Аляксандру Пятровічу, Эдуарду Сенкевічу і Аляксандру Фядотаву з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і бласлаўлення ад нованароджанага Збаўцы. Жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму, душэўнага супакою і нязнаснага запалу ў працы на ніве Пана.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Вішнеўца*



Паважанаму Ксяндзу Міхалаю Ціхановічу з нагоды свят Божага Нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя, шмат радасці, невычэрпнай энергіі, добразычлівых людзей побач. Няхай народжаны Хрыстос асвяціць Вашае сэрца і напоўніць сваёй любоўю, надзеяй, дабрынёй, блаславіць усе добрыя пабуджэнні ў новым годзе і дадасць сілы і стойкасці ў рэалізацыі ідэй і намераў.

*Душпастарства службы аховы здароўя*



Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Божага бласлаўлення, няспыннай апекі Маці Божай Кангрэгацкай, шмат радасці, поспехаў ва ўсіх справах, добрага здароўя, усмешак. Няхай нованароджаны Хрыстос адорвае Вас сваімі незлічонымі ласкамі, а Бэтлеемская зорка заўсёды свеціць на святарскім шляху. Дзякуем за супольную малітву, шчырую любоў і добрае сэрца.

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*



Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні ўсіх ласкаў ад Дзіцятка Езус, Нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень. Няхай жыццё плыве ў здароўі, радасці, супакою, любові і дабрыні, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі, гатовыя прыйсці на дапамогу ў цяжкую хвіліну.

*Удзячныя парафіяне з в. Каробчыцы*



Паважаным Айцам: Пробашчу Антонію Пажэцкаму, Яўгену Голубу і Максімільяну Свяжэўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем моц самых сардэчных пажаданняў моцнага здароўя, шчасця, радасці, душэўнага супакою, моцнай веры і непахіснай надзеі. Няхай Дзіцятка Езус шчодра адорвае Вас сваімі дарамі, а Яго Маці – Найсвяцейшая Панна Марыя – нястомна Вамі апекуецца.

*Рыцарства Беззаганнай*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Саковічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем радасці, душэўнага супакою, моцнага здароўя і цярплівасці. Мы ўдзячныя Вам за тое, што Вы з намі, за клопат пра кожнага з нас і нашы святыні, за шчырыя малітвы і прыгожыя павучальныя казанні. Дзякуем маме за сына святара і просім Пана Езуса аб хуткім яе выздараўленні. Няхай Маці Божая ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Карэлічаў і Вароны*



Паважанаму Ксяндзу Здзіславу Пікулу і Клерыку Артуру Ляшнеўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні моцнай веры ў Хрыста, за якім Вы з адвагай крочыце, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі Дапаможніцы Хрысціян у кожную хвіліну жыцця, моцнага здароўя, сілы, стойкасці, людской добразычлівасці. Няхай Дзіцятка Езус напаўняе кожны дзень Вашага жыцця радасцю, супакоем і Божай любоўю. Дзякуем за Божае слова, клопат пра нас, цудоўны прыклад веры і вялікую дабрыню. Прыміце ад нас мноства гарачых малітваў.

*З удзячнасцю дзеці, моладзь і іх бацькі з Дзятлава*



Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2015 года з глыбіні нашых удзячных сэрц жадаем моцнага здароўя ў паслузе Хрыстоваму Касцёлу, шмат радасці ў сэрцы, пра якую так шмат гаварыў св. Ян Боско, душэўнага супакою і людской дабрыні. Няхай нованароджаны Езус адорвае Вас сваімі ласкамі і бласлаўленнем ў навучанні і фарміраванні нашых сэрцаў, цярплівасць, дабрыню і прыклад веры. Дзякуем за ахвярную працу ў нашай парафіі, клопат пра касцёл і кожнага з нас. Мы памятаем пра Вас у сваёй малітве.

*З удзячнасцю дзеці, моладзь і іх бацькі з Дзятлава*



Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай Дзіцятка Езус адорыць Вас сваімі ласкамі і бласлаўленнем, прынясе радасць і супакой, атуліць сваёй апекай і ахіне ў шчасце. Няхай побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі і кожны чарговы дзень жыцця будзе лепшы, чым папярэдні.

*Парафіяне з Індуры*



Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і душпастарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі нястомна, Святы Дух адорвае Вас сваімі дарамі, а Дзіцятка Езус бласлаўляе з яслаў. Жадаем таксама моцнага здароўя, шмат радасці, шчасця і душэўнага супакою.

*Сям'я Заяц з Парэчча*



Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузмічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага 2015 года ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, радасці, апекі Найсвяцейшай Маці і ўсіх Божых ласкаў. Няхай Бэтлеемская зорка асвятляе Ваш святарскі шлях. Дзякуем Вам за цудоўнае Божае слова, павучальныя казанні, а таксама за 5 гадоў адданай працы ў нашай парафіі.

*Клементына і вернікі з в. Таневічы*

Працяг на наступнай старонцы



# Ад шчырага сэрца





Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень жыцця праходзіць у радасці, супакоі і любові, здароўе няхай спрыяе і здзяйсняюцца ўсе мары. Няхай усемагутны Бог благаслаўляе Вас і апекуецца штодзённа, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Родныя*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Шаньчуку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года шчыра жадаем усяго самага найлепшага: добрага здароўя на доўгія гады жыцця, моцнай веры, надзеі і любові на кожны дзень, нястомнай радасці і супакою ў сэрцы. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшай дарогай да Пана, а маленькі Езус благаслаўляе і шчодра адорвае сваімі дарамі. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Гожы*

*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, аптымізму, поспехаў і стойкасці ў душпастарскай працы, добразычлівых людзей побач і моцнага здароўя. Няхай Найсвяцейшая Маці штодзённа Вамі апекуецца, Святы Дух адорвае сваімі дарамі, а маленькі Езус благаслаўляе з ясляў.

*Касцёльны хор з Доцішкаў*

*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку ў нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў апекі Найсвяцейшай Маці і Дзіцятка Езус.

Сонейка рана прачнулася і з першай песенькай склала пажаданні. І мы віншаванні складаем: здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў і сто гадоў жыцця для Вас у Бога просім. Дзякуем Вам за казанні, што прамаўляеце ў касцёле, і за тое, што робіце для нас шмат дабра. Мы ўдзячны Богу за тое, што Вы з намі, і як дар удзячнасці ў дзень Імянін свае сэрцы складаем. Жывіце доўгія гады, а Анёл-ахоўнік няхай сплятае Вам вянок з белых руж. Шчасці Божа бацькам за сына святара.

*Удзячныя парафіяне з Казловічаў*

*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года складаем мноства сардэчных пажаданняў: благаслаўлення Божага Дзіцяці, здароўя, душэўнага супакою, сіл у нялёгкай святарскай паслузе, а таксама зычлівых людзей побач. Няхай Бэтлеемская зорка вядзе Вас найпрыгажэйшым шляхам, а Маці Божая мае ў сваёй апецы.

*З павагай вернікі з Казловічаў*

*

Паважанаму Ксяндзу Юрыю, Сёстрам Марыне, Ярдане і Дароце з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем, каб нованароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, адорваў Вас сваімі дарамі, здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Шчасці Божа!

*Сям'я Саўко з Вейшычаў*

*

Паважаным Ксяндзам Вітольду Чургану і Мікалаю Ціхановічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні ўсяго найлепшага. Няхай здароўе будзе моцным, радасць нястомнай, мары здзяйсняюцца, планы рэалізуюцца, а побач будуць добразычлівыя людзі. Няхай нованароджаны Езус благаслаўляе Вас кожны дзень, а Маці Божая ахінае сваёй апекай і вядзе дарогай да збаўлення.

*Ружанцовае кола МБ Тракельскай з Юрацішкаў*

*

Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу і Леону Лішыку з нагоды свят Нараджэння Пана і Новага года ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў: моцнага здароўя, радасці, шчасця, супакою ў душы і сэрцы, аптымізму і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай апека Маці Божай, благаслаўленне Божага Дзіцяці і дары добрага Бога заўсёды будуць з Вамі.

*Парафіянкі з в. Гледневічы*

*

Паважаным Ксяндзам Алегу Жураўскаму, Здзіславу Вэдэру і Станіславу Краўчанку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, нязгаснага запалу веры і надзеі, душэўнага супакою і аптымізму на кожны дзень. Няхай нованароджаны Езус благаслаўляе кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі.

*Удзячныя парафіяне са Смаргоні*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Жураўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаю мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, людской дабрыні, поспехаў у душпастарскай працы і мноства радасці. Няхай благаслаўленне Божага Дзіцяці сыдзе на Цябе, на твары заўсёды госціць усмешка, а душу ахінае супакой.

*Бабуля*

*

Шаноўныя Сёстры Вераніка Блізнюк, Ірына Барцэвіч і Валянціна Кот! Мы вельмі ўдзячны Пану Богу за Вас і за тое, што запалены Вамі агеньчык Божай любові распальвае ў нас полымя веры, за тыя ўпэўненасць, супакой і надзею, якімі Вы нас адорваеце. З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем, каб Ваш жыццёвы шлях быў высланы пялёсткамі руж ад удзячных за Вашу паслугу людзей, каб нованароджаны Езус праз Вашу малітву аддзячыў Вам дарамі Духа Святога, Маці Божая адарыла цеплынёй свайго сэрца, а Анёл-ахоўнік заўсёды чуваў над Вамі.

*Моладзь, дзеці з Савіо-клуба, міністранты і ўдзячныя парафіяне са Смаргоні*

*

Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаю букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены супакоем і благаслаўленнем Божага Дзіцяці, побач будуць добразычлівыя людзі, а здароўе, радасць і поспех ніколі Вас не пакідаюць.

*З малітоўнай памяццю Здзіслаў са Смаргоні*

*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года маем прыемнасць скласці самыя сардэчныя пажаданні. Жадаем дароў Святога Духа, шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай на святарскім шляху, людской добразычлівасці, душэўнага супакою і моцнага здароўя на кожны дзень новага года! Мы ўдзячны Богу за тое, што Вы з намі!

*З памяццю ў малітве парафіяне з Забалаці*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Канапельку з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні добрага здароўя, шчасця, радасці, надзеі, сіл у душпастарскай працы і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай Найсвяцейшая Маці трымае Вас пад сваёй апекай і ахінае нястомнай дапамогай.

*Парафіяне з капл. у Вердамічах*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Дня нараджэння жадаем Божага благаслаўлення, шмат ясных, спакойных дзён і моцнага здароўя на доўгія гады. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за турботы, дабрыню і ласку.

*Вернікі з пар. Рэпля*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, спакойных дзён, нястомнасці ў душпастарскай працы, рэалізацыі ўсіх планаў, добразычлівых людзей побач і апекі Маці Божай, Каралевы Супакою.

*Касцёльны камітэт з пар. Рэпля*

*

Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю, Сёстрам Станізе і Антаніне з нагоды свят Нараджэння Пана і Новага года ад усяго сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай нованароджанае Дзіцятка Езус адорвае Вас моцным здароўем, радасцю і супакоем, Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай любові і апекі, Бэтлеемская зорка ўказвае самы прыгожы шлях да Пана, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Сям'я Залеўскіх, парафіяне з капл. Шастакоўцы*

*

Дарагім Рышарду і Тэклі Залеўскім з нагоды Юбілею жадаем усяго найлепшага: моцнага здароўя яшчэ на доўгія-доўгія гады, сіл і стойкасці на кожны дзень, аптымізму, радасці і моцнай надзеі на лепшае. Няхай у сэрцы заўсёды госціць супакой, на твары – усмешка, а ў доме – Бог.

*З любоўю сям'я*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу з нагоды Дня нараджэння складаем найлепшыя пажаданні. Няхай у гэты радасны дзень нованароджаны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, адорыць моцным здароўем і ўсімі ласкамі на доўгія гады. Няхай на Вашым твары заўсёды госціць усмешка, а жыццё будзе напоўнена святлом, радасцю і моцнай непахіснай верай. Ад усяго сэрца дзякуем за працу ў нашым касцёле, абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца, а таксама клопат пра парафіян і святыню.

*З малітвай ружанцовае кола з Рэплі*

*

Паважаным Ксяндзам Валянціну Хведуку, Яну Рэйшалю і Віктару Захарэўскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб нованароджанае Божае Дзіця благаслаўляла і адорвала сваімі ласкамі, здароўя на доўгія гады і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая вядзе Вас па найлепшым жыццёвым шляху, які выбраў для Вас Бог. Радасных Свят і шчаслівага Новага года!

*З малітвай парафіяне з Моцевічаў*

*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем сардэчныя пажаданні шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у жыцці, а таксама добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас супакоем, любоўю і радасцю, Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае сваёй апекай, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень. Няхай Бог узнагародзіць Вас за працу ў нашай парафіі, цудоўнае абвяшчэнне Божага слова і добрае сэрца. Няхай Ён дапамагае перажываць усе цяжкасці. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за любоў і цярплівасць да нас. Будзьце святаром паводле Сэрца Езуса. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Салтанішкі, пар. Нача*

*

Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай душа штодзённа радуецца ў Пану, шчасце жыве побач, а здароўе ніколі не пакідае. Няхай з твару не сходзіць усмешка, над галавой заўсёды свеціць сонца і ніколі не слабее надзея на лепшае. Няхай Божае благаслаўленне сыходзіць на Вас нястомна, а апека Найсвяцейшай Панны Марыі атуляе, як мацярынскі плашч. Шчасці Божа!

*Парафіяне з капл. Масаляны*

*

Шаноўнай Сястры Генавефе Марцінкевіч з нагоды Юбілею, а таксама Сёстрам Вандзе Геда і Веранiцы Бурбе з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя на доўгія гады жыцця, непахіснай веры, радасці, святла Святога Духа і жывога агню любові ў сэрцы. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены Божым благаслаўленнем і апекай Маці Божай. Шчасці Божа!

*III Ордэн св. Францішка з пар. Тэалін*

Паважаным Ксяндзам: Антонію Філіпчыку, Паўлу Эйсманту, Дзмітрыю Леўчыку і Генрыху Яблоньскаму з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шмат здароўя, радасці, душэўнага супакою. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас штодзённа, Найсвяцейшая Маці ахінае сваім плашчом, каб Вы маглі прыносіць багаты плён на ніве Пана.

*Ружанцовае Кола МБ Нястомнай Дапамогі з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

*

Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шмат здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай Пан Бог Вас благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці нястомна апекуецца.

*"Маргарытка" з пар. св. Вацлава ў Ваўкавыску*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу з нагоды Імянін, свят Божага Нараджэння і Новага года перасылаем букет найлепшых пажаданняў здароўя і душэўнага супакою. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Маці Божая моцна трымае за руку, а Ваш Анёл-ахоўнік штодзённа будзе побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны. Дзякуем Вашым бацькам за сына святара.

*З павагай парафіяне з Луконіцы*

*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівым і благаслаўлёным, здароўе не слабее, а людзі навокал адорваюць дабрынёй і радасцю. Няхай Бог усемагутны адорыць Вас сваімі бязмежнымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і св. Заступнік нястомна чуваюць над Вамі.

*З памяццю ў малітве парафіяне з Забалаці*

*

Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні шматлікіх Божых ласкаў, радасці ад святарскай паслугі, зароўя, усмешкі, дароў Святога Духа і дапамогі Маці Божай ва ўсіх справах. Няхай пры дапамозе Бога і добрых людзей здзяйсняюцца ўсе Вашы планы і намеры, а нованароджаны Хрыстос адорвае сваёй любоўю і супакоем.

*Парафіяне з Торфабрыкетнага і Верцялішкаў*

*

Паважанаму Ксяндзу Станіславу Краўчанку з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, радасці, душэўнага супакою і здзяйснення ўсіх мар. Будзьце мудрым і святым святаром і вядзіце нас усіх далей да Бога. Дзякуем Вам за клопат пра дзяцей і моладзь.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай і св. Заступніка, усіх дароў Святога Духа, а таксама ўсяго найлепшага: моцнага здароўя, шчасця, радасці і поспехаў у працы на ніве Пана.

*Парафіяне з Путрышкаў*

*

Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму і Юрыю Павайбу, а таксама Сёстрам Гарэцці, Эўхарыі і Паўле з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года ад усяго сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, здароўя, радасці ад выконваемай працы, шмат сіл і стойкасці. Няхай добры Бог і Найсвяцейшая Маці заўсёды маюць Вас пад сваёй апекай. Ад усяго сэрца дзякуем за малітву, добрае слова, а таксама за тое, што Вы з намі.

*Сям'я Касцюшка*

*

Паважанаму Ксяндзу Генрыху Яблоньскаму з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчодрага плёну ў душпастарскай працы, радасці і аптымізму на кожны дзень. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе благаслаўлёны, усемагутны Бог ахінае сваёй міласэрнасцю, а Маці Божая і св. Заступнік апекуюцца на працягу ўсяго жыцця.

*Парафіяне з касц. св. Роха ў Грандзічах*

*

Ад імя супольнасці Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі прагну скласці самыя сардэчныя пажаданні ўсім хрысціянам Гродзенскай дыяцэзіі з нагоды мінулых свят Божага Нараджэння і Новага года. Жадаю ўсім Вам, дарагія Браты і Сёстры, Божага благаслаўлення на новы 2015 год. Таксама, як Мудрацы з Усходу, мы крочым па жыцці, вядзёныя зоркай, імя якой – Любоў. Аддзяч Вам, Божа, за Вашы малітвы і ахвяраванні на карысць Гродзенскай ВДС. Мы штодзённа молімся ў Вашай інтэнцыі ў семінарыйнай капліцы, а таксама адпраўляем у апошні дзень кожнага месяца святую Імшу ў Вашай інтэнцыі.

*З малітвай і ўдзячнасцю кс. Раман Рачко, рэктар Гродзенскай ВДС*



У сувязі са смерцю любімага чалавека Доўкша Станіславы перасылаем словы глыбокага жалю і спачування.

*Дачка Марыя, унук Аляксандр з сям'ёй*



Родным і блізкім памерлай Станіславы Доўкша ў сувязі са смерцю любімага чалавека перасылаем словы шчырага спачування і жалю, спалучаныя з малітвай.

*Сем'і Трубей і Раманчук з Гродна*

Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні

**СЛОВА ЖЫЦЦЯ**
**галоўны рэдактар кс. Павел Салабуда**
Заснавальнік: Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія
год заснавання 1997; рэгістр. №1085

**Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі**
Выдавец: курыя Гродзенскай дыяцэзіі

Рэдакцыя газеты:
230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4
кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня
тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by**;
http://**www.slowo.grodnensis.by**

Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г.
230025 Гродна, вул. Палiграфiстаў, 4;
нумар заказу 58; тыраж 6840;
аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты;
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная